# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№2 (249)
люты 2023

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"


## Як беларусы гукалі вясну на берагах Гудзона

18 лютага рыбацкі дом Осінінга, што ў Нью-Джэрсі, на ўзбярэжжы ракі Гудзон, гасцінна адчыніў дзверы. Менавіта сюды к 12 гадзінам дня сцякалася з розных абшараў беларуская грамада, каб паўдзельнічаць у абрадавым святе "Гуканне вясны".

**Старонка 6**






# МІЖНАРОДНЫ ПАЭТЫЧНЫ ФЕСТЫВАЛЬ ІМЯ МІХАСЯ СТРАЛЬЦОВА

Другі год запар фэст праходзіць паза Беларуссю. Гэтым разам Стральцоўскі фэст ізноў прыняла Вільня, адкрыццё адбылося 10 лютага ў Саюзе пісьменнікаў Літвы.

"Вельмі радая, што пры любых абставінах гэты фестываль адбываецца. Мы жывём у горадзе, які заўсёды быў адкрыты ўсім нацыям і ўсім культурам, – зазначыла падчас адкрыцця фэсту кіраўнічка Саюзу пісьменнікаў Літвы Бірутэ Ёнушкайтэ-Аўгусцінене (Birutė Jonuškaitė-Augustinienė). – Радая, што наш Саюз пісьменнікаў можа адчыніць вам дзверы, каб пачуць усё створанае за апошні год. (…) Хачу зазначыць, што гэты год для нас быў вельмі цяжкім. Калі б не нашы браты і сёстры ва Украіне, якія сёння гінуць, то невядома, ці магло б гэта свята сёння адбыцца. Я таксама думаю і веру, што слова паэта можа змяняць нават вялікую палітыку. Таму жадаю вам, каб гэта адбывалася".

Кіраўнічка Шведскага саюзу пісьменнікаў Грэтэ Ротбёль (Grethe Rottböll) у сваім выступе ўзгадала, што яе дзейнасць на гэтай пасадзе пачалася з паездкі ў Беларусь, "фота з гэтай паездкі дагэтуль стаіць на працоўным стале".

"Хачу сказаць, што мы, вядома, сочым за сітуацыяй у Беларусі. Мы памятаем масавыя арышты ў 2020 годзе, адным з тых, хто быў арыштаваны тады – паэт Дзмітры Строцаў. Мы разам са шведскім ПЭН-цэнтрам пісалі ліст Аляксандру Лукашэнку.

**Працяг на старонцы 4.**




## СЕРЫЯЛ "ТРЫЗУБ І ПАГОНЯ" АД КАМПАНІІ "БУДЗЬМА БЕЛАРУСАМІ!"

**Гістарычны серыял прысвечаны самым цікавым старонкам супольнай гісторыі Беларусі і Украіны. Таямнічы свет войнаў і інтрыг, кахання і барацьбы за ўладу, смерці і нараджэння дзяржаў адкрывае гледачам тэлевядоўца і спявачка Кацярына Ваданосава.**

навіны

# ЛАЎРЭАТА НОБЕЛЕЎСКАЙ ПРЭМІІ АЛЕСЯ БЯЛЯЦКАГА АСУДЗІЛІ НА 10 ГАДОЎ ПАЗБАЎЛЕННЯ ВОЛІ

3 сакавіка ў судзе Ленінскага раёна горада Мінска старшыні Праваабарончага цэнтра "В*сна", палітвязню Алесю Бяляцкаму прысудзілі 10 гадоў калоніі ва ўмовах узмоцненага рэжыму.




Акрамя Аляся Бяляцкага, абвешчаны прысуд яго калегам, палітзняволеным праваабаронцам:

Валянціну Стэфановічу – 9 гадоў

Уладзіміру Лабковічу – 7 гадоў

Дзмітрыю Салаўёву (завочна) – 8 гадоў

Таксама Аляесю Бяляцкаму прызначылі пяць тысяч базавых велічыняў штрафу (185 000 рублёў). Астатнім правабаронцам прызначылі штраф у памеры тры тысячы базавых велічыняў (111 000 беларускіх рублёў)

Нагадаем, 9 лютага 2023 года пракурор запрасіў для Алеся Бяляцкага да 12 гадоў пазбаўлення волі, Валянціна Стэфановіча – 11 гадоў і Уладзіміра Лабковіча – 9 гадоў, Дзмітрыю Салаўёву – 10 гадоў, а таксама запатрабаваў прызначыць штраф у памеры 185 000 беларускіх рублёў на кожнага з абвінавачаных.

Праваабаронцы сваёй віны не прызналі.

"Пазіцыя пракуратуры па справе нашых сяброў і калегаў з'яўляецца ўвасабленнем усёдазволенасці беларускіх уладаў. Драконаўскія тэрміны турэмнага зняволення і штрафы нават па жахлівых стандартах глыбока скампраметаванай беларускай судовай сістэмы з'яўляюцца цяжкім выпрабаваннем для абвінавачаных і іх сем'яў", – заяўляў Павел Сапелка, выконваючы абавязкі члена праўлення "В*сны".

Міжнародныя праваабарончыя арганізацыі напярэдадні вынясення прысуду па справе праваабаронцам асудзілі крымінальны пераслед Алеся Бяляцкага, Валянціна Стэфановіча і Уладзіміра Лабковіча і ў чарговы раз заклікалі беларускія ўлады вызваліць праваабаронцаў і зняць з іх усе абвінавачанні.

**Адрас для падтрымкі:** СІЗА-1, 220030, Мінск, Валадарскага, 2 (Аляксандр Віктаравіч Бяляцкі, Валянцін Канстанцінавіч Стэфановіч, Уладзімір Мікалаевіч Лабковіч).

budzma.org

# КНІГА ЕВЫ ВЕЖНАВЕЦ "ПА ШТО ІДЗЕШ, ВОЎЧА?" ВЫЙШЛА ПА-НЯМЕЦКУ

Пра выхад кнігі "Па што ідзеш, воўча?" па-нямецку напісала Святлана Курс (творчы псеўданім Ева Вежнавец) на сваёй старонцы ў фэйсбуку.

"Выдавецтва Zsolnay, што ў Вене, выслала мне кнігу разам з ласкавым, уласнаручным лістом ад выдаўца. Не магу расказаць, як я сябе адчуваю. Маё шчасце ад вашага, сябры, прызнання, заўжды падпсаванае згрызотамі недасканаласці і комплексам самазванкі.

Але маёй удзячнасці да тых, хто мяне выдаваў, перакладаў, чытаў, верыў у мяне, нішто не зменшыць.

Асаблівыя падзякі Ціне і Герберту. Спадарыні Святлане і Алене. І Раману.

Аўстрыйская кніга ідэальная: зярністая жаўтлявая папера; прыгожы і стрыманы шрыфт – сапраўднае паяданне літарак вачыма; цудоўная супервокладка і тканая вокладка. Усё грэе", – напісала Святлана Курс.

Аповесць "Па што ідзеш, воўча?" выйшла ў 2020 годзе ў выдавецкай ініцыятыве "Пфляўмбаум", а ў 2021-м гэтая кніга стала лаўрэатам прэміі Гедройця.

budzma.org



навіны

# У БАТУМІ АДКРЫЛАСЯ ПЕРШАЯ КРАМА БЕЛАРУСКАЙ СІМВОЛІКІ

Ужо два тыдні ў Батумі ў тэставым рэжыме працуе крама беларускай сімволікі Batumiby.ge. Пра ідэю стварэння, асартымент і пакупнікоў budzma.org паразмаўляла з уладальнікам крамы Андрэем Мялешкам.



## Ад цішотак да паштовак часоў БНР

Андрэй распавядае, што ідэя адкрыцця чагосьці падобнага існавала яшчэ з 2021 года, але рэалізаваць яе ўдалося толькі зараз. Пасля ліквідацыі гродзенскай крамы беларускіх колераў “Адметнасць” у Батумі атрымалася перавезці шмат рознага тавару. Уладальнік крамы займаецца калекцыянаваннем даўніны, таму вырашыў у Грузіі рэалізоўваць некаторыя элементы сваёй калекцыі: “У 2020 годзе ўдалося знайсці ў Гародні кукарды з “Пагоняй”, якія насілі міліцыянты ў Беларусі яшчэ ў 90-я гады XX стагоддзя. У нас таксама ёсць у крамцы такія рарытэты, як арыгінальныя маркі Асобнага Атраду БНР з пачатку 20-х гадоў XX стагоддзя з маёй асабістай калекцыі”, – распавядае Андрэй. Акрамя беларускай сімволікі, ёсць украінская і грузінская.

## Аўтарскі асартымент, які беларускія майстры робяць у Батумі

Асноўны асартымент – нацыянальныя сцягі і значкі, таксама карыстаюцца попытам кубкі і цішоткі, якія Андрэй робіць у супрацы з крамай “Адметнасць”, што перабазавалася ў Беласток. Таксама на паліцах крамы можна знайсці вырабы са шкла і дрэва, сіліконавыя бранзалеты з сімволікай на любы густ. Супраца шчыльна наладжана з беларускімі рамеснікамі: “На месцы ў Батумі мы маем некалькі беларускіх майстроў, якія вяжуць шалікі, шкарпэткі з нацыянальнай сімволікай. Адна беларуска прыносіць да нас у крамку шакалад ручной работы ў выглядзе анёлкаў і сэрцайкаў. А ад украінскіх майстроў маем некалькі аўтарскіх цішотак і шопераў, пернікі і брошкі. Наша сям’я робіць таксама лялькі і маскі для сну, якія таксама набываюць беларусы”, – дзеліцца ўладальнік крамы.

На дадзены момант асартымент аўтарскіх прац складае каля 25–30%, “але думаю, што з цягам часу ён будзе павялічвацца. Бо пасля першых аб’яваў у сацыяльных сетках пачалі прыходзіць першыя майстры, якім цікава прадаваць сваю прадукцыю”, – дадае Андрэй.

## Партрэт сярэдняга пакупніка сімволікі

Згодна з назіраннямі ўладальніка крамы, сярэднестатыстычны пакупнік – гэта малады беларус ці беларуска ўзростам каля 30–40 год, якія прыехалі ў Грузію ў 2021–2023 гадах. “Чалавек з сярэднім дастаткам, які можа набыць за адзін раз нешта на суму ад 15 да 20 долараў. Таксама сярод пакупнікоў у нашай крамцы цяпер вялікая колькасць украінцаў і ўжо пачынаюць заходзіць і грузіны, якія набываюць значкі як з украінскай, так і з беларускай сімволікай”, – рэзюмуе бізнэсовец.

Крама беларускай сімволікі знаходзіцца ў Батумі па адрасе: вуліца 26 мая, 41.

**АМ, budzma.org**

# У ВАРШАВЕ НАПІСАЛІ “БЕЛАРУСКУЮ ДЫКТОЎКУ”

Арфаграфічны конкурс традыцыйна прымеркавалі да Міжнароднага дня роднай мовы. Галоўны арганізатар падзеі – кафедра беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта. Падчас дыктоўкі адбывалася анлайн-трансляцыя, так што праверыць свае веды маглі беларусы ўсяго свету. Што праўда, пераможцаў вызначылі толькі сярод тых, хто 21 лютага – нягледзячы на транспартны калапс, звязаны з прыездам у Варшаву Джо Байдэна – змог даехаць на факультэт прыкладной лінгвістыкі.




Майстрам беларускай мовы 2023 стала Тацяна Малашчанка. Другое месца ў “Беларускай дыктоўцы” занялі Ніна Ваніцкая і Эмі Бялінская. Андрэй Залескі меў трэці вынік. Адмысловая ўзнагарода ў катэгорыі “студэнт” чакала Аляксандру Дойніч. Пераможцы атрымалі падарункі ад кафедры беларусістыкі. Памятныя прызы падрыхтавалі і Беларускі моладзевы хаб ды Беларускі дом у Варшаве.

**radiounet.fm**

рэпартаж

# МІЖНАРОДНЫ ПАЭТЫЧНЫ ФЕСТЫВАЛЬ ІМЯ МІХАСЯ СТРАЛЬЦОВА

Працяг са старонкі 1.

Строцаў быў вызвалены праз некалькі дзён, тады мы наіўна думалі, што гэта вызваленне адбылося ў тым ліку пад уплывам таго нашага ліста. Але цяпер мы ведаем, што гэта зусім не так", – сказала Грэтэ Ротбёль.

Шведскі саюз пісьменнікаў – адзін з суарганізатараў фэсту. Вось што кажа кіраўнічка шведскага саюза пра сямейнае адзінства паэтаў і пісьменнікаў, незалежна ад краіны пражывання: "Я амаль усё сваё жыццё ў адзіноце. Але гэтая адзінота вымагае адзінасці іншага кшталту. Адна з прычын, па якой я пагадзілася ўзначаліць Саюз шведскіх пісьменнікаў, – для мяне гэта вялікая сям'я. Гэта сям'я не па крыві, яна грунтуецца на іншых каштоўнасцях – на павазе да свабоды слова, на тым, што тычыцца нашага таго агульнага, што мы ўсе маем. І гэта сям'я не абмяжоўваецца Швецыяй – яна паўсюдная. Яна не вызначаецца грамадзянствам, вызначаецца іншымі катэгорыямі: той пазіцыяй, якую маем, той барацьбой, якую вядзём, павагай да іншых. Таму гэта цалкам праўдзівая еднасць, якая адначасова моцная і вельмі крохкая. Крохкая, бо калі мы не здолеем яе бараніць, яна знікае. Моцная, калі мы робім усё ж такі нешта разам, яе немагчыма перамагчы".

Паводле Грэтэ Ротбёль, "мы вельмі ўражаныя тым, як вы бароніце свае правы, сваю мову, як вы замест гвалту спяваеце песні, як вы – нават калі не можаце ўжо прысутнічаць у сябе на радзіме і рабіць там свае справы – па-ранейшаму змагаецеся за свае правы, за сваё". "Мы ўдзячныя за тое, што належым да адной сям'і. І хачу сказаць, што пакінуць вас азначае пакінуць саміх сябе", – сказала на заканчэнне кіраўнічка шведскай пісьменніцкай арганізацыі.

Пісьменнік Барыс Пятровіч абвяшчаў шостага лаўрэата – ім стаў перакладчык, паэт, літаратуразнаўца Юры Пацюпа. "Дзякуй літоўскай зямлі і ўсім, хто спрычыніўся да фэсту і падтрымаў яго. Летась я выказаў надзею, што наступны фестываль адбудзецца ў Беларусі. На жаль, мае словы, нашыя жаданні і спадзяванні не спраўдзіліся. Мы ізноў у Вільні. Але я ўпэўнены, што ў блізкім часе наш фестываль усё ж вернецца ў Беларусь, дзе для яго будуць адкрытыя самыя лепшыя, самыя вялікія залі беларускай сталіцы, як гэта было гадамі. Наш фестываль мае шмат добрых традыцый", – распачаў Барыс Пятровіч.

– Журы штогод доўга спрачаецца наконт кожнага лаўрэата. Гэтым разам таксама былі гарачыя абмеркаванні. Нам удалося паспець выдаць кнігу лаўрэата ў Мінску. Дома падчас абвяшчэння лаўрэата на сцэну выходзілі ўсе сябры журы, кожны з каторых называў нейкія характарыстыкі пераможцы. Гэтым разам зноў так не будзе. Папярэднімі лаўрэатамі былі Алег Мінкін, Анхела Эспіноса Руіс, Антаніна Хатэнка, Анатоль Вярцінскі і Наста Кудасава. У журы сёлетняга фэсту ўвайшлі ўдава пісьменніка Алена Стральцова, паэты Міхась Скобла, Уладзімір Някляеў і Аксана Спрынчан, – распавёў Барыс Пятровіч. – Гэтым разам прэмія імя Міхася Стральцова ўручаецца за захаванне класічных літаратурных традыцый, за самабытнасць і багацце паэтычнай мовы, за адкрыцці ў даследаванні даўняга беларускага пісьменства.

На другі дзень фестывалю імпрэзы ў віленскім клубе-кавярні Paviljonas змянялі адну за адной без перапынку. Прэзентацыя стотомнай серыі "Паэты планеты" – гэта падарожжа па часе і прасторы, якую вялі Марыя Мартысевіч, Ганна Янкута, Андрэй Хадановіч, Юлія Цімафеева, Алег Мінкін ды іншыя.

Серыю "Паэты планеты" запачаткаваў выдавец Зміцер Колас. Сапфо, Петрарка, Гай Валерый Катул, Эдгар По, Шарль Бадлер, П'ер дэ Рансар, Райнер Марыя Рыльке – спіс перакладаў уражвае. На сёлетнім фэсце прадстаўленыя апошнія кнігі з серыі.

Канстанты Ідэльфонс Галчынькі, пераклады якога прадстаўляў Андрэй Хадановіч, пісаў і пра Вільню – тут ён пражыў колькі гадоў. А яшчэ правёў шэсць год у савецкіх і нямецкіх лагерах, адтуль актуальны дагэтуль верш "Божая Маці палонных", звернуты і сёння, як заўважыў перакладчык, да "ўсіх, хто ў зняволенні, усіх, хто чакае сваіх родных, блізкіх з месцаў, дзе яны апынуліся не з уласнай волі".

Гучалі пераклады класіка літоўскай паэзіі Юсцінаса Марцінкявічуса, пераклад рускамоўных вершаў Максіма Багдановіча, пераклады Адама Міцкевіча, вялікая частка зборніка ў серыі "Паэты планеты" якога зробленая Сержам Мінскевічам. Ганна Янкута прадставіла пераклады з Марыі Паўлікоўскай-Яснажэўскай, Кацярына Мацieўская – Кшыштафа Каміля Бачыньскага і Уладыслава Шленгеля.



Кіраўнічка Саюзу пісьменнікаў Літвы Бірутэ Ёнушкайтэ-Аўгусцінене



Кіраўнічка Шведскага саюзу пісьменнікаў Грэтэ Ротбёль

### Першая прэзентацыя кнігі "Алесь Бяляцкі"

Кніга "Алесь Бяляцкі" выдадзеная намаганнямі выдавецтва "Полацкія лабірынты" і Беларускага ПЭН-цэнтра. Кніга і пра Алеся Бяляцкага, і збор тэкстаў самога праваабаронцы.

"7 кастрычніка мы даведаліся пра Нобелеўскую прэмію міру Алесю Бяляцкаму і зразумелі, што мы мусім выдаць пра яго кнігу, сабраўшы ў яе найлепшыя тэксты, выдадзеныя ў папярэднія гады. Кніга рыхтавалася вельмі хутка – мы цягам месяца павінны былі паспець да цырымоніі ўручэння Нобелеўскай прэміі міру (10 студзеня) – і паспелі: кніга пабывала ў Осла", – распавяла прадстаўніца ПЭН-цэнтру Таццяна Нядбай.

У кнізе сабраныя матэрыялы, якія могуць "раскрыць чытачу Алеся як шматгранную асобу, каб паказаць яго не толькі як праваабаронцу, але як літаратара, як пісьменніка, як культурніцкага дзеяча, як дысідэнта познесавецкіх часоў".

Выкарыстоўвалася і перапіска Алеся. "Тое, што атрымліваецца (адрасатамі) – перапрацоўваецца. Таксама сюды ўвайшлі некаторыя рэчы, апублікаваныя ў СМІ, у блогах Бяляцкага на інтэрнэт-сайтах. Яшчэ адной важнай часткай сталіся выказванні сяброў, калег, паплечнікаў Алеся, праз якія мы таксама можам паглядзець на тое, які Алесь ёсць у іх жыцці як сябар і аднадумец. І фотаздымкі, якія аздабляюць часткі кнігі. А яна фактычна складаецца

тэматычна з дзвюх частак – часы да таго, як Алесь Бяляцкі заняўся праваабарончай дзейнасцю ў 1996 годзе, і ад праваабароны і да сёння", – сказала Таццяна Нядбай.

"Алесь – гэта легендарная постаць у гісторыі Беларусі, мы будзем гэта яшчэ спакваля так асэнсоўваць. Факт уручэння яму Нобеля – гэта акурат той шчаслівы выпадак, калі чалавека і ягоную ролю ў нашай гісторыі пачалі ацэньваць ягоныя сябры, знаёмыя, паплечнікі, аднадумцы, аднагрупнікі, дзякуй Богу, яшчэ пры жыцці. Са свайго досведу я памятаю як сапраўды адзінкі, сярод іх Вінцук Вячорка, Алесь Бяляцкі, Сяргей Дубавец – задоўга да так званай "перастройкі", яшчэ на пачатку 80-х – фактычна сталі той косткай у будучым яблыку, будучым беларускім плодзе. Вакол іх сталі гуртавацца сябры, вырасла "Майстроўня", затым "Тутэйшыя". (…) Канечне, Алесь Бяляцкі стаіць і ля вытокаў адраджэння беларускай хрысціянскай дэмакратыі, адраджэння выдання "Хрысціянскай думкі". (…) Гэта былі бурапенныя гады ў прадчуванні вясны", – успамінае мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі.

Алесь Бяляцкі стаяў і ля вытокаў адраджэння менавіта беларускай незалежнай прэсы, менавіта ён на пасадзе дырэктара музея Багдановіча прытуліў "Нашу Ніву", а затым і газету "Свабода". "Першы нумар адроджанай "Нашай Нівы" выйшаў у траўні 1991 года, да канца СССР заставалася яшчэ паўгода. І газету, якую дзіўным спосабам надрукавалі ў Баранавічах, дзе не было апаратаў для ўкладання разваротаў, мы завезлі ў музей Багдановіча, і ўсю ноч дзяўчаты – і Алена Лапцёнак, і Паліна Сцепаненка, і Таццяна Равяка – складалі з пачкаў гэтую газету. І мы паспелі да першага З'езду беларусаў свету. І доўгі час мы мелі там офіс – у музеі Багдановіча", – распавёў Сяргей Харэўскі.



Паэт Алег Мінкін і кнігавыдаўца Яраслаў Іванюк, kamunikat.org

Паводле паэта Уладзіміра Някляева, Алесь Бяляцкі – чалавек, "якім будзе ганарыцца наша Беларусь у веку вечныя".

"Цікава, што ў мяне ў жыцці было два разы, калі ўсе мае мэйлы, тэлефоны, сацыяльныя сеткі раптам выбухалі і ва ўсім Каралеўстве Швецыя я станавіўся ўсім патрэбным. Першы раз – калі Святлана Алексіевіч атрымала Нобелеўскую прэмію. А другі раз – калі Алесь Бяляцкі, – кажа паэт, перакладчык, прадстаўнік Шведскага ПЭН-цэнтру Дзмітры Плакс. – Ад асобы Шведскага ПЭНа я магу сказаць, што мы робім усё, каб пашыраць інфармацыю пра тое, што адбываецца ў Беларусі і што адбываецца ў часе працэсу над Алесем Бяляцкім".

## Новыя праекты і новыя кнігі

Паэт і кнігавыдавец Дзмітры Строцаў прадставіў на фэсце тры кнігі новага выдавецтва Hochroth-Minsk. Гэта паэтычныя зборнікі Ганны Севярынец, Насты Кудасавай і Крысціны Бандурынай, у хуткім часе чакаецца кніга Ганны Комар.

"Не буду каментаваць нешта пра кнігі паэтак. Усе мы іх добра ведаем. Для мяне было важным, каб у друкаваным выглядзе выйшлі тэксты, якія публікаваліся ў сацыяльных сетках з 2020-га і да апошніх дзён. Шчырыя, болевыя, сапраўдныя. Я звярнуўся да паэтак, каб менавіта так яны гэтыя кнігі сабралі", – расказаў Дзмітры Строцаў. І сам пачытаў свае вершы той жа пары, 2020-га, шчырыя, болевыя і сапраўдныя.

Падчас імпрэзы "З'явіцца новы: 10 паэтычных кніг 2022-2023 гадоў", акрамя Дзмітрыя Строцава, адбыліся выступы-прэзентацыі Альгерда Бахарэвіча ("Вершы"), Віктара Сямашкі ("Аўтар мае рацыю заўжды"), Юлі Цімафеевай ("Воўчыя ягады", "Мінск. Горад, якога мне не стае", "Motherfield"), Ганны Янкуты ("Канстытуцыя").

Пасля адбылася прэзентацыя анталогіі беларускай паэзіі на літоўскай мове "Baltai – Raudonai – Baltai", аматараў беларускага паэтычнага слова чакала Ноч паэзіі з удзелам найлепшых нашых творцаў.

Трохдзённы паэтычны фестываль "Вершы на асфальце" імя Міхася Стральцова завяршыўся творчай вечарынай перакладчыка, паэта Андрэя Хадановіча. І нагода важная – 13 лютага паэт адзначаў 50-годдзе.

Адзінаццаты фэст "Вершы на асфальце" меў надзвычай насычаную праграму і ў першы, і ў другі дзень. Але чытачам-слухачам хапіла сіл і на фінальную імпрэзу, больш за тое, на творчай вечарыне Андрэя Хадановіча ў нядзелю вечарам у Віленскім беларускім музеі імя Луцкевіча не хапала месцаў – быў сапраўдны аншлаг.

У афішы фестывалю імпрэза паэта, перакладчыка, барда была пазначаная так: "Андрэй Хадановіч. Greatest Hits: паэзія, пераклады, музыка". Так, аўдыторыя пачула найлепшае ў плэйлісце, які склаў сам Андрэй Хадановіч. Хаця ў праграму ўносіліся і змены: з залы перадавалі цыдулкі, у якіх замаўлялася нешта асаблівае для аўтара замовы, што яшчэ не гучала ў выкананні мэтра. Выступалі і калегі Андрэя Хадановіча, чые вершы ён перакладаў, а яны ягоныя – Уладас Бразюнас (Vladas Braziūnas), Дзмітры Строцаў. Чыталі пераклады з кніг серыі "Паэты планеты", па аўтограф на якіх потым утварылася даволі сур'ёзная чарга.

Былі і абяцаныя Андрэем Хадановічам у нядаўнім інтэрв'ю Budzma.org сюрпрызы. Госці імпрэзы пачулі ўрыўкі з вершаванага лібрэта будучай оперы, якая з'явіцца неўзабаве з музыкай Вольгі Падгайскай і ў пастаноўцы Мікалая Халезіна. Маналогі герояў, дарэчы, вельмі актуальныя для сённяшняй Беларусі.

Канечне, былі і песні (пад некаторыя аўдыторыя падпявала) – свае і пераклады любімай паэзіі Андрэя Хадановіча, у тым ліку чэха Яраміра Ногавіцы ды паляка Яцэка Качмарскага. Ну і вядома, атмасфера. Так, не без сумных нотак, вельмі сёння зразумелых, але з мяккім фірмовым гумарам паэта і вітальнасцю.

"Бамаршэ сказаў: я буду смяяцца, каб не заплакаць. Я дадам ад сябе, што гэты свет – недасканалы, а ў апошнія гады асабліва, гэта відавочна, але мы не мусім дазволіць сабе патураць яму ў гэтым. А патурала б яму нашая пасіўнасць, панурасць, складзеныя рукі, комплексы і маўчанне. Чым горш, чым больш мы зараз падзеленыя, тым больш мы павінны казаць, быць заўважнымі, дасылаць адно аднаму праменне падтрымкі, бо інакш – дэпрэсія, інакш – авітаміноз, інакш… Я маю маладых сяброў, якія ў росквіце сілаў сышлі, сыходзяць, але мы мусім перарываць, выжыць, нам ёсць што сказаць свету. Свет збяднее без Беларусі – і мы не давядзем да гэтай бяды. Трымаймася! І будзьма беларусамі!" – заўважыў у размове з карэспандэнтам Budzma.org пасля амаль трохгадзіннай імпрэзы юбіляр.



**Рыгор Сапежынскі, budzma.org**

навіны

# ЯК БЕЛАРУСЫ ГУКАЛІ ВЯСНУ НА БЕРАГАХ ГУДЗОНА

18 лютага рыбацкі дом Осінінга, што ў Нью-Джэрсі, на ўзбярэжжы ракі Гудзон, гасцінна адчыніў дзверы. Менавіта сюды к 12 гадзінам дня сцякалася з розных абшараў беларуская грамада, каб паўдзельнічаць у абрадавым свяце "Гуканне вясны".



Арганізатарамі святкавання на Гудзоне выступіла суполка ў фэйсбуку "Беларусы ЗША. Разам лягчэй", а таксама Пётр і Алена Рыжыя.

Пачалося мерапрыемства са смачнага пачастунку ў рыбацкім доме, дзе гасцей чакаў разнастайны стол. Тут пяклі бліны, варылі пюрэ, кашу і кампот. А таксама прапаноўвалі мясныя стравы і салаты.

Пасля абеду адбыўся непасрэдна святочны абрад у парку на беразе ракі.

Алена Рыжая, Ганна Шарко і Ганна Губянкова вялі беларускую грамаду ў абрадавым спеве.

Працягнулася мерапрыемства карагодамі, конкурсамі, гульнямі, перацягваннем канату, смешнымі забаўкамі.

Святочны карагод прыцягнуў увагу амерыканцаў, якія рабілі шпацыр уздоўж ракі. Некаторыя з іх спыняліся і пыталіся, што за гэта за мерапрыемства. Адзін з такіх, 75-гадовы Джон, распавёў, што ягоны дзядуля быў з Валожына. Але бацька ўжо быў народжаны ў ЗША. Сам ён па адукацыі хімік і ўсё жыццё прапрацаваў у буйной фармакалагічнай кампаніі. Пра Беларусь, акрамя назвы Валожын, ён больш нічога не ведае. Але генетычны код адазваўся ў ім, і ён стаў адным з удзельнікаў беларускага фэсту.

Трэба сказаць, што арганізатары парупіліся аб упрыгожванні пляцоўкі ля рыбацкага дома. Паўсюль былі рознакаляровыя самаробныя птушкі, сплеценыя з саломы і абматаныя беларускімі колерамі і нацыянальнымі сімваламі. Разам з амерыканскім, вісеў нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг.

Таксама адметнасцю свята на Гудзоне стала лялька – вядзьмарка Марэна, якой сімвалічна перадалі ўсе негатыўныя думкі. Спаленне лялькі плануецца пазней, на Купалле летам.

Працягнулася мерапрыемства за кавай у рыбацкім доме, дзе можна было пад кіраўніцтвам Пятра Рыжага сплесці сабе ваўняны пояс на адмысловым старадаўнім станку. А таксама паслухаць беларускую музыку, паразмаўляць і завесці новыя знаёмствы.

Віталь Зайка раздаў жадаючым беларускія перакідныя календары ад суполкі "Пагоня". У кніжнай краме "Літарка" можна было набыць кнігі беларускіх аўтараў, бел-чырвона-белыя вязаныя шапкі, шалікі і іншыя рэчы.

Ніхто з гасцей мерапрыемства ў рыбацкім доме Осінінга не пашкадаваў аб гэтым.

Выходная субота атрымалася насычанай і змястоўнай. А вясна павінна хутка атрымаць сваю ўладу і ўвайсці ў жыццядаючую моц.

**Алесь Пазняк, bielarus.info**

# У ПОЗНАНІ З'ЯВІЛАСЯ НОВАЯ БЕЛАРУСКАЯ ФУНДАЦЫЯ

Вось ужо як месяц праект KUT ладзіць дыскусійныя сустрэчы, творчыя вечары, майстэрні, выставы і адукацыйныя лекцыі. Пакуль што ўсе імпрэзы адбываюцца ў познаньскай кавярні "Мы", якую некалькі гадоў таму адкрылі дзве беларускі. Уласна, гэтая ўтульная прастора на вуліцы Фрэдры, 5 і натхніла дзяўчат на стварэнне чагосьці большага. Спачатку на кубачак кавы яны запрашалі людзей культуры, музыкаў і мастакоў, а не так даўно знайшлі фінансаванне на тое, каб яшчэ актыўней развіваць у Познані беларускую культуру. Гутарка з суаўтаркай праекта KUT Вольгай.

– Калі мы з каляжанкай адкрылі кавярню, то адразу вырашылі, што гэта будзе месца, дзе мы будзем збіраць дзеячаў культуры, музыкаў. Нам сталі дапамагаць нашыя сябры, і ўсё гэта вылілася ў тое, што вось ужо як месяц існуе фундацыя KUT.

**– Што мелі на ўвазе пад назвай?**

– Шчыра? Тут няма нейкай цікавай гісторыі. У нас было некалькі словаў, якія нам падабаліся, але мы ўсё ніяк не маглі вызначыцца і цягнулі са стартам. Урэшце вырашылі, што калі рабіць найлепшыя ў свеце рэчы, то абсалютна неістотна, як мы называемся. Такі і сталі "Кутом". Мне падабалася, што гэта трошкі матэматычныя назва. У нейкім сэнсе, кут – гэта такі пункт, з якога ўжо няма выйсця. І ўсё ж мы ведаем, як беларусы паводзяць сябе ў, здавалася б, бязвыхадным становішчы. Ну і, канечне, "мой родны кут". Пра радкі Коласа таксама думалі.

І калі ў кавярню "Мы" часцей заходзіла моладзь, то са з'яўленнем фундацыі, якая пакуль што таксама месціцца ў кафэ, аўдыторыя стала больш шырокай. Вольга прызнаецца, што часамі нават хвалюецца, ці хопіць усім месца: людзей прыходзіць нечакана шмат.

– Тут і нішавыя мастакі, і проста творчыя асобы. Зрэшты, нашая мэта – кансалідацыя беларусаў. Я спадзяюся, мы будзем цікавыя ўсім.

Вынікі першага месяца дзейнасці – гэта серыя моўных спатканняў "Еш, малюй, размаўляй" (па аналогіі з вядомым творам "Еш, маліся, кахай"). На Міжнародны дзень роднай мовы ў кавярні прачыталі лекцыю пра Язэпа Драздовіча, некалькі тыдняў таму адбыўся паэтычны вечар. А да канца лютага на вуліцы Фрэдры, 5 будзе працаваць фотавыстава "Вырай" рэжысёркі Юліі Шатун.

– У мінулым годзе Юля стала падвойнай прызёркай iPhone Photography Awards 2022. Гэта былі здымкі "Прадаўцы рыбы на Камароўскім рынку" і "Пякарня Sefa Firini". У Юлі на фота мы бачым тую Беларусь, за якой вельмі сумуем. А вось у нядзелю, дарэчы, у нас будзе спатканне з мастаком Сяргеем Лунёвым. Гэта штосьці вельмі смелае, я нават сама не ведаю, што ў нас будзе адбывацца.

**– Вольга, праз ваш натхнёны аповед нават хочацца пераехаць у Познань!**

– Мне трошкі шкада аддаваць Познань усім (смяецца). Мне гэты горад нагадвае Парыж. Тут вельмі цікавае спалучэнне мастакоў, артыстаў, людзей культуры, і я сёння нават думала аб тым, што ў Познані ўвесь час пануе атмасфера артыстычных рэзідэнцый. Усе прыехалі сюды, каб штосьці ствараць.

**radiounet.fm**

**гутарка**

# Юлія Цімафеева: Я вымушаная прызнаць, што пішу эмігранцкія вершы



22 лютага ў Лейпцыгу ва ўніверсітэцкай бібліятэцы Альбертына прайшла літаратурная сустрэча з паэткай, перакладчыцай Юліяй Цімафеевай і пісьменнікам Альгердам Бахарэвічам.

На сустрэчу, якая анансавалася як двухмоўная (з удзелам перакладчыка Томаса Вайлера), прыйшло каля 40 чалавек, як лейпцыгскіх беларусаў, так і немцаў. Невялічкая зала была паўнюткай, прыйшлося нават прыносіць дадатковыя крэслы.

Моў у выніку было больш за две – Бахарэвіч, які, як памятаюць чытачы "Гамбургскага рахунку", доўгі час жыў у Германіі, прамаўляў панямецку, Цімафеева – па-ангельску. І, зразумела, абодва чыталі свае творы па-беларуску.

Юлія – вершы з нямецкамоўнага зборніка "Der Angststein" і беларускамоўных "Воўчых ягад", "аўтабіяграфіі без фактаў", кнігі, пачатай і скончанай у выгнанні. Абедзве выйшлі ў 2022 годзе. Альгерд – урыўкі з не патрабуючых прадстаўлення "Сабакаў Эўропы". Томас Вайлер чытаў тое ж самае ў перакладзе на нямецкую мову (дарэчы, "Сабакі Эўропы" ў ягоным перакладзе хутка выйдуць у нямецкім выдавецтве Voland&Quist).

Бахарэвіч у асноўным распавядаў слухачам пра сюжэт "Сабакаў" і іх пакручысты шлях у Беларусі (кніга афіцыйна прызнаная экстрэмісцкай), пра ролю розных моваў у кнізе і агулам у творчасці.

Юлія Цімафеева, каментуючы свае вершы, дзялілася асабістым, перажытым за два гады ў эміграцыі-выгнанні:

– Я пачала пісаць лісты палітвязням, бо гэта амаль адзінае, што я магла зрабіць для іх, што мы ўсе можам зрабіць. Спачатку я пісала знаёмым і незнаёмым людзям, але потым арыштавалі майго брата з жонкай, яны абодва музыкі, гралі на маршах. І я пачала пісаць лісты ў турму сваім родным. Але яны ўжо адбылі ўвесь прысуджаны тэрмін і зараз ў бяспецы.Я двойчы страчвала голас як паэтка, як літаратарка: у 2020 годзе пасля выбараў у Беларусі і з пачаткам ваеннай агрэсіі Расіі ва Украіне. Зноў яго знайсці часам дапамагаюць пераклады. Калі ў цябе няма сваіх словаў, ты можаш знайсці іх у іншых. Летась я шмат перакладала ўкраінскіх паэтак і паэтаў.А часам знайсці свой голас можна на іншай мове. Калі я пішу па-ангельску, я ўяўляю сябе іншым чалавекам. Так з'явіўся мой англамоўны дзённік пра паўсядзённае жыццё ў пратэсным Мінску, "Minsk Diary", надрукаваны ў 2021 годзе па-нямецку.Не так даўно падчас адной закрытай імпрэзы ў мяне запыталася літаратарка, якая жыве ў Беларусі, ці разумею я, што пішу эміграцкую літаратуру. Спачатку мяне гэта моцна раніла. Але цяпер я ўсё ж разумею, я вымушаная прызнаць, што пішу эміграцкія вершы.Каб адчуваць нейкую прастору домам, мне неабходныя расліны. У Грацы, дзе мы жылі два гады, я вырасціла некалькі дрэўцаў авакада з костачак. Так з'явіўся верш "Аўтапартрэт у выглядзе костачкі авакада". На жаль, я вымушаная была дрэўцы пакінуць іншым людзям, калі мы з'язджалі, такая маленькая трагедыя.Наш дом там, дзе нашыя кнігі. Нашая бібліятэка засталася у Менску, нам яе вельмі не хапае. За два гады ў Грацы у нас зноў з'явілася шмат кніг – невялікую частку мы забралі з сабой у Кемніц, дзе жывем зараз, іншыя падаравалі, яшчэ частка чакае нас у Грацы.

Пасля амаль двухгадзіннай імпрэзы адбылася невялічкая аўтографсесія. Пару дзясяткаў кніжак, што літаратары прывезлі з сабой, разышліся амаль імгненна – як беларускія, так і на нямецкай мове.

**Яўген Ерчак, фота аўтара, budzma.org**

# На "Берлінале" прайшла прэзентацыя Беларускай незалежнай кінаакадэміі

17 лютага на "Берлінале" прайшла афіцыйная прэзентацыя Беларускай незалежнай кінаакадэміі. Гэтую падзею можна лічыць гістарычнай.



Яшчэ ніколі такая колькасць рэжысёраў за ўсю гісторыю кінематаграфіі незалежнай Беларусі не збіралася на буйным еўрапейскім кінамаркеце, прадстаўляючы свае праекты. Так, былі стэнды "Беларусьфільма" ў Канах у першай палове 2010-х, але тут нават немагчымасці параўноўваць магчымасці дзяржавы і прыватнай ініцыятывы.

На прэзентацыі Кінаакадэміі прысутнічалі міністр культуры Германіі, прадстаўнікі Еўрапейскай кінаакадэміі і шэраг іншых афіцыйных асоб.

**budzma.org паводле "Свяшчэнны Белавуд", фота Дзмітрыя Брушко**

**навіны**

# "СКАРЫНАЎКА" ЛАДЗІЦЬ КАНФЕРЭНЦЫЮ, ПРЫСВЕЧАНУЮ ВАЦЛАВУ ЛАСТОЎСКАМУ

Канферэнцыя "Новым імкненням даць новыя формы". Вацлаў Ластоўскі і беларускія мовазнаўцы ў культурным дыскурсе 20-30-х гадоў" адбудзецца ў лонданскай Скарынаўскай бібліятэцы.




У 20-я гады ХХ стагоддзя, калі працякалі працэсы станаўлення новай беларускай рэчаіснасці, беларускае мовазнаўства адыгрывала велізарную ролю ў інтэлектуальным і культурным дыскурсе, уплывала на гэты дыскурс і жывілася з яго.

На тле гэтых працэсаў выразна вылучаецца постаць Вацлава Ластоўскага (1883–1938) – пісьменніка, гісторыка, мовазнаўцы, этнографа, грамадскага і палітычнага дзеяча. Сёлета – у год беларускай мовы і нацыянальнага адраджэння – мы святкуем ягонае 140-годдзе.

Таксама сёлета мы адзначаем юбілеі іншых нашых выбітных адраджэнцаў: пісьменнікаў і мовазнаўцаў Максіма Гарэцкага (1893–1938), Язэпа Лёсіка (1883–1940), Сцяпана Некрашэвіча (1983–1937). Усе яны разам з Ластоўскім былі сярод тых, хто закладаў асновы сучаснага беларускага мовазнаўства і гісторыяграфіі, ствараў слоўнікі, граматыкі, пісаў літаратуразнаўчыя агляды, хто стаяў ля вытокаў Інбелкульта і Беларускай акадэміі навук. Яны ж былі аднымі з першых ахвяр сталінскага тэрору супраць нацыянальнай інтэлігенцыі.

У гонар юбілеяў нашых слаўных суайчыннікаў Скарынаўская бібліятэка ў Лондане ладзіць навуковую канферэнцыю "Новым імкненням даць новыя формы". Вацлаў Ластоўскі і беларускія мовазнаўцы ў культурным дыскурсе 20-30-х гадоў". Канферэнцыя пройдзе ў гібрыдным фармаце 10–11 лістапада 2023 года.

Запрашаем дасылаць прапановы выступленняў на тэмы, звязаныя з постаццю і спадчынай Вацлава Ластоўскага ды іншых вядучых мовазнаўцаў і з гісторыяй беларускага мовазнаўства і беларусістыкі, на адрас library@skaryna.org.uk да 10 ліпеня 2023 года.

**novychas.online**

# СПАМПОЎВАЙЦЕ ПАДРУЧНІКІ І ВУЧЫЦЕСЯ РАЗАМ СА СВАІМІ ДЗЕТКАМІ!

Няма падручніка па беларускай мове? Можна яго стварыць самому! Аліна Ваўранюк, настаўніца беларускай мовы з пачатковай школы №4 у Беластоку, менавіта так і зрабіла: узяла справу ў свае рукі. Дзесяць гадоў таму ў школы Падляшша, і не толькі, трапіў яе першы аўтарскі падручнік для вучняў 2 класа пачатковай школы пад назвай "Лемантар". Каляровы, з буслом і "Пагоняй".




З другога паўгоддзя 2023 года ўжо можна карыстацца новым падручнікам для 5 класа "Блізкія словы", да якога прыкладаецца дыск з песнямі і які выйшаў тыражом 600 экзэмпляраў. У той самы час Аліна выдала яшчэ два: "Кругагод" для 3 класа і "Колазварот" для 4 класа пачатковай школы.

Выдавец новага падручніка "Блізкія словы" – Аб'яднанне АБ-БА. Тэхнічны рэдактар – Адам Паўлоўскі, а фотаздымкі з фэйсбука Аліны Ваўранюк узятыя з яе згоды.

І галоўнае! Усе падручнікі можна спампаваць у PDF версіі.

**"Мова. Гомель" для "Штодзень"**

## Беларускі каляндар памятных дат на сакавік 2023 года

**1 сакавіка**
- 120 гадоў таму, у 1903-м, нарадзіўся Алесь Змагар (сапр. Аляксандр Яцэвіч), літаратар, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Аўстрыі, Францыі і ЗША. Памёр у 1995-м.
- 90 гадоў таму, у 1933-м, памёр Уладзімір Жылка, паэт.

**3 сакавіка**
- 110 гадоў таму, у 1913-м, памёр Зыгмунт Пуслоўскі, мецэнат.

**6 сакавіка**
- 140 гадоў таму, у 1883-м, нарадзіўся Іван Бялькевіч, мовазнавец. Памёр у 1960-м.

**7 сакавіка**
- 40 гадоў таму, у 1983-м, памёр Антон Сокал-Кутылоўскі, адзін з кіраўнікоў антысавецкага Слуцкага паўстання.

**8 сакавіка**
- 95 гадоў таму, у 1928-м, памёр Пётр Крачэўскі, літаратар, гісторык, старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

**9 сакавіка**
- 190 гадоў таму, у 1838-м, памёр Язафат Булгак, уніяцкі мітрапаліт.
- 140 гадоў таму, у 1883-м, нарадзіўся Францішак Аляхновіч, драматург. Забіты ў 1944-м.
- 70 гадоў таму, у 1953-м, памёр Мікола Равенскі, кампазітар, фалькларыст, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Бельгіі.

**11 сакавіка**
- 120 гадоў таму, у 1903-м, нарадзіўся Тодар Кляшторны, паэт. Расстраляны ў 1937-м.

**12 сакавіка**
- 60 гадоў таму, у 1963-м, у Гайнаўцы адкрыўся Беларускі музей.

**14 сакавіка**
- 80 гадоў таму, у 1943-м, памёр Васіль Захарка, старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (1928–1943).

**19 сакавіка**
- 255 гадоў таму, у 1768-м, нарадзіўся Адам Храптовіч, мецэнат. Памёр у 1844-м.

**21 сакавіка**
- 110 гадоў таму, у 1913-м, нарадзіўся Станіслаў Пыртак, рымска-каталіцкі святар, блаславёны. Забіты ў 1942-м.

**22 сакавіка**
- 80 гадоў таму, у 1943-м, разам з жыхарамі спалена вёска Хатынь.

**23 сакавіка**
- 45 гадоў таму, у 1978-м, памёр Рыгор Шырма, харавы дырыжор, фалькларыст.

**25 сакавіка**
- Дзень Волі

**26 сакавіка**
- У Беластоку сфарміраваны засназвальніцкі камітэт Беларускага Аб'яднання Студэнтаў (БАС).

**30 сакавіка**
- 70 гадоў таму, у 1953-м, нарадзіўся Валерый Маслюк, тэатральны рэжысёр. Памёр у 2001-м.
- 40 гадоў таму, у 1983-м, памерла Аўгіння Каранеўская (дзяв. Воўк-Левановіч), дзяячка эміграцыі ў Аўстраліі.

**Беларусы ў свеце**
№ 2 (249), люты 2023
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацэнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

zbsb.info e-mail: zbsb.minsk@gmail.com